©ПАЛІТЫЧНАЯ СФЕРА
ISSN 1819-3625 №24 (1), 2016

Тацяна Касатая

# Праблемы гістарыяграфіі Евангельскіх хрысціян-баптыстаў: традыцыі перыяду БССР[1]

Сучасная беларуская гістарыяграфічная традыцыя канфесійнай гісторыі толькі фарміруецца. На агульным фоне даследаванні пратэстантызму ўвогуле і Евангельскіх хрысціян-баптыстаў у прыватнасці займаюць вельмі сціплае месца. Большасць працаў па тэме Евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ) мае апісальны характар, што звязана з недаступнасцю крыніц (напрыклад, крыніцы фондаў архіваў Упраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі), метадалагічнай абмежаванасцю, а таксама празмернай палітызаванасцю тэмы. Шмат у чым беларуская гістарыяграфія працягвае традыцыі савецкага часу.[2] Якраз таму варта яшчэ раз звярнуць увагу на працы, якія былі напісаны на гэтую тэму ў перыяд БССР. Апроч таго савецкая гістарыяграфія для даследчыка ЕХБ аднachасна з'яўляецца таксама крыніцай вывучэння рэлігійнай палітыкі. Большасць навукоўцаў таго перыяду былі заангажаваны ў грамадска-палітычную дзейнасць. Яны не толькі пісалі працы "пад замову" партыйнага кіраўніцтва, але і актыўна ўдзельнічалі ў фарміраванні ўзаемадачыненняў дзяржавы з вернікамі.

## 1. Навука як інструмент рэлігійнай палітыкі савецкай дзяржавы

У Савецкім Саюзе ўсе навукі з'яўляліся складовай часткай грамадска-палітычнай сістэмы. Не існавала аўтаномнасці даследаванняў і самастойных даследчых інстытутаў. Яны маглі існаваць толькі ў той ступені, у якой выконвалі патрэбы дзяржавы. Менавіта таму навука разглядалася перш за ўсё ў якасці інструмента дзяржаўнай палітыкі. У першую чаргу гэта тычылася гуманітарных ведаў: гісторыі, філасофіі, сацыялогіі, рэлігіязнаўства і інш.

Для гуманітарных навук у савецкі час былі характэрны палітызаванасць; дзяржаўны кантроль і планаванне

[1] Артыкул падрыхтаваны аўтарам у рамках Міжнароднай доктарскай праграмы для Беларусі (www.phd.palityka.org).

[2] У прыватнасці, Алег Д'ячэнка і сёння сцвярджае, што ідэалогія пяцідзясятніцтва садзейнічае "канфесійнай дэзінтэграцыі беларускага грамадства" (Дьяченко, 2003: 145–146). Артыкул Наталлі Балтрушэвіч (2005) грунтуецца на тэарэтычных напрацоўках былога сектазнаўца Інстытута навуковага атэізму пры Акадэміі грамадскіх навук Льва Мітрохіна.

дзейнасці навуковай супольнасці; вызначэнне прыярытэтных накірункаў даследаванняў; прагматычны і інструментальны характар навукі; дырэктыўнасць як асноўны спосаб узаемадзеяння дзяржавы і гуманітарнай навукі; метадалагічная абмежаванасць ды інш. (Бычков, 2001).

Менавіта ў такіх умовах адбывалася вывучэнне ЕХБ у Савецкім Саюзе. Пераважна гэта былі рэлігіязнаўчыя, сацыялагічныя і філасофскія даследаванні, у якіх вывучэнне рэлігіі і рэлігійных працэсаў адбывалася ў форме крытыкі і на аснове атэістычнай ідэалогіі.

Савецкая гістарыяграфічная традыцыя пратэстантызму пачала фарміравацца адразу пасля прыхода да ўлады бальшавікоў. Вывучэнне баптыстаў, евангельскіх хрысціянаў і іншых пратэстанцкіх накірункаў адбывалася ў межах даследавання "сектанцтва". Савецкія навукоўцы запазычылі азначэнне "сектанцтва"[3] з даследаванняў часоў Расійскай імперыі. Баптыстаў у той перыяд называлі сектантамі як праваслаўныя аўтары, якія ў большасці былі святарамі, так і прадстаўнікі ліберальнай плыні вывучэння рэлігій. Напрыклад, праваслаўны святар Цімафей Буткевіч у "Аглядзе рускіх сект і іх накірункаў" залічыў баптыстаў (штунда-баптыстаў) да рацыяналістычнай секты і, нягледзячы на прызнанне некаторых станоўчых бакоў іх дагматыкі, называў баптысцкае вучэнне ілжывым і няправільным (Буткевич, 1910: 488). У працах гісторыка Сяргея Мельгунова, які прадстаўляў ліберальны накірунак вывучэння рэлігійнага пытання, баптысты таксама разглядаліся як сектанты, але без выкрывальніцкіх характарыстык. Аўтар адстойваў іх права на свабоду веравызнання (Мельгунов, 1904, 1909). Дэфініцыя "сектанцтва" ў савецкі час шырока выкарыстоўвалася ў дачыненні да ўсіх пратэстантаў і мела ў большасці выпадкаў негатыўную канатацыю.

Пры гэтым напачатку 1920-х гадоў да баптыстаў было даволі лаяльнае стаўленне з боку дзяржавы. Адзін з найбольш аўтарытэтных даследчыкаў таго часу савецкі палітычны дзеяч, гісторык Уладзімір Бонч-Бруевіч (1959) звярнуў увагу на дэмакратычнасць прынцыпаў баптысцкага вучэння і структуры царквы. Лічыў баптыстаў саюзнікамі бальшавікоў у барацьбе з царызмам. Але ў другой палове 1920-х гадоў вывучэнне пратэстанцкіх канфесій паступова страціла сваю палітычную мэтазгоднасць. І замест навуковых выданняў з'яўляліся крытычныя і выкрывальніцкія брашуры пра контррэвалюцыйную дзейнасць пратэстантаў (гл. Чудноўцаў, 1931). Найбольш цанілася прагматычнасць даследаванняў. Вывучэннем баптызма займаліся чыноўнікі, якія не мелі досведу ў навуковым аналізе рэлігійных пытанняў, але былі добрымі практыкамі ў ажыццяўленні антыканфесійнай палітыкі. Напрыклад, пачаў вывучаць "сектанцтва" адказны сакратар Антырэлігійнай камісіі пры ЦК РКП(б) і супрацоўнік НКУС Яўген Тучкоў (Бычков). Праўда, яго брашура "Сектанцтва і яго ідэалогія" (Тучков, 1955) была надрукавана толькі ў 1955 годзе. Гэта выданне па сваёй

[3] У артыкуле гэта паняцце ўжываецца ў залежнасці ад кантэксту і не мае негатыўнага адцэнення.

структуры і форме працягвала традыцыі агітацыйных антырэлігійных брашур канца 1920-х – 1930-х гадоў: абсалютная крытыка баптызму; негатыўны вобраз прасвітараў, іх шкодніцкая і антысавецкая дзейнасць. Але прапанаваныя Тучковым метады барацьбы з рэлігійнасцю ўжо адпавядалі новым прынцыпам стаўлення да вернікаў.

Пасля прыняцця ў 1954 годзе Пастановы ЦК КПСС, а потым і ЦК КПБ "Аб памылках у правядзенні навукова-атэістычнай прапаганды сярод насельніцтва" (1985: 571–573) з'явіліся новыя патрабаванні да спосабаў змагання з царквой, якая разглядалася ўжо не як класавы вораг, а як перажытак мінулага, што захаваўся ва ўмовах перадавога сацыялістычнага грамадства толькі з прычыны кансерватызму свядомасці чалавека. У сувязі з гэтым прапанавалася арганізоўваць антырэлігійную кампанію ў форме барацьбы навукова-матэрыялістычнага светапогляду з антынавуковым рэлігійным. Згодна з новай лініяй партыі Тучкоў у сваёй брашуры сцвярджаў, што поспехі сацыялістычнага будаўніцтва змусілі "сектантаў" змяніць свае палітычныя пазіцыі, але яны не змянілі сваю рэакцыйную сутнасць. Іх ідэалогія *"засталася антынавуковай, чужой і варожай інтарэсам камуністычнага будаўніцтва"* (Тучков, 1955: 12). Брашуры такога кшталту выдаваліся на працягу ўсяго пасляваеннага часу і маюць крыніцазнаўчую вартасць у вывучэнні савецкай рэлігійнай палітыкі.

З моманту прыняцця Пастановы аб навукова-атэістычнай прапагандзе змянілася не толькі стаўленне да вернікаў, але пачаўся і новы этап гістарыяграфіі ЕХБ. Для правядзення навуковай крытыкі баптызму было неабходна яго даследаваць. Навуковыя працы па вывучэнні ЕХБ пачалі выходзіць у 1960-я гады. Гэтаму садзейнічала стварэнне ў 1964 годзе Інстытута навуковага атэізму Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Асноўнай задачай Інстытута была цэнтралізацыя атэістычнай працы шляхам развіцця метадалогіі будучых даследаванняў, а таксама каардынацыя атэістычнай працы на месцах (Смолкин, 2009). Ва ўстанове існаваў Вучоны савет, які падпарадкоўваўся ЦК КПСС і атрымоўваў адтуль партыйныя дырэктывы.

У Інстытуце даследаваннямі "сектанцтва" займаліся Эдуард Філімонаў (1968), Галіна Ляліна (1977), Аляксандр Іпатаў (1978). У часопісе "Пытанні навуковага атэізму" друкаваліся асноўныя навуковыя працы па вывучэнні пратэстантызму. У Інстытуце распрацоўваўся і адмысловы тэрміналагічны апарат. Напрыклад, разглядалася пытанне адэкватнасці выкарыстання паняцця "секта" ў дачыненні да ЕХБ. Была зроблена спроба стварэння тыпалагічнай структуры пратэстанцкіх аб'яднанняў і адыходу ад практыкі залічэння іх да "секты". Вылучаліся чатыры тыпалагічныя групы: першыя дзве прадстаўлялі аб'яднанні ўласна сектанцкага характару, з адмоўным стаўленнем да свету, эсхаталагічнай арыентацыяй веравучэння. У трэцюю групу ўваходзілі грамады, якія страчвалі вышэй пералічаныя характарыстыкі і станавіліся дэнамінацыямі. І да чацвёртага тыпу адносіўся Саюз ЕХБ, які найбольш наблізіўся да царквы (Вопросы научного атеизма,

1979). Але як ужо адзначалася вышэй, да распаду Савецкага Саюза азначэнні "секта" і "сектанцтва" пастаянна выкарыстоўваліся ў дачыненні да ЕХБ. А навукоўцаў, якія займаліся іх вывучэннем называлі "сектазнаўцамі". У 1970-я гады паняцце "секта" ў катэгарызацыі баптыстаў усё больш страчвала адмоўную канатацыю і набывала нейтральны характар.

У 1960-я – 1970-я гады даследчыкі пратэстантызму пачалі шырока выкарыстоўваць яшчэ адно паняцце "рэлігійны экстрэмізм", пад якім разумеліся дзеянні вернікаў, што выходзілі за межы савецкага заканадаўства пра культы: дзіцячыя і моладзевыя гурткі па вывучэнні Біблii, місіянерская і дабрачынная дзейнасць, распаўсюджванне рэлігійнай літаратуры і інш. (Арестов, 1987; Куроедов, 1981).

## 2. Метадалогія савецкай гістарыяграфіі гісторыі ЕХБ

Вывучэнне ўсіх канфесій у савецкі час было падпарадкавана метадалагічным прынцыпам гістарычнага матэрыялізму і навуковага атэізму. Асноўнымі прадметамі даследавання з'яўляліся – прычыны ўзнікнення і існавання рэлігіі ў грамадстве, крытыка веравучэнняў, аналіз сацыяльнай ролі рэлігіі ў грамадстве, вызначэнне шляхоў пераадолення рэлігійных забабонаў і гэтак далей. Метадалагічная абмежаванасць абумоўлівала перавагу эмпірычных даследаванняў і іх дастасавальны (прыкладны) характар. Што садзейнічала аднаўленню і развіццю сацыялогіі рэлігіі.

Доктар гістарычных навук Аляксандр Клібанаў, які супрацоўнічаў з Інстытутам навуковага атэізму, фактычна стварыў школу даследчыкаў рэлігій на тэрыторыі СССР. Дзякуючы яму, у Савецкім Саюзе адрадзілася сацыялогія рэлігіі, забароненая ў 1930-я гады. Ён пачаў праводзіць першыя палявыя экспедыцыі па вывучэнні канфесій. Арганізаванае Клібанавым даследаванне "сектанцтва" ў Тамбоўскай, Ліпецкай і Варонежскай абласцях РСФСР у 1959–1961 гады паўплывала на фарміраванне методыкі (інтэрв'ю, назіранне, збор дакументальнага матэрыялу) вывучэння рэлігійнасці, што набліжала яго працы да культурнай антрапалогіі. Але метадалагічная ўніфікацыя (марксісцкі падыход) абмяжоўвала Аляксандра Клібанава ў яго даследчай дзейнасці. Варта адзначыць, што ён быў арыштаваны ў 1936 годзе па справе свайго навуковага кіраўніка, дырэктара Інстытута антрапалогіі і этнаграфіі АН СССР Мікалая Маторына. У 1942 годзе Клібанаваў быў вызвалены, пасля ў 1947 годзе зноў арыштаваны па той жа справе. Да 1954 года ён знаходзіўся ў зняволенні.

Зразумела, што ў такіх умовах Аляксандр Клібанаў змог аднавіць сваю навуковую дзейнасць толькі прытрымліваючыся марксіцка-ленінскага падыходу да рэлігій. Менавіта таму ў сваіх працах ён паслядоўна апеляваў да *дыялектыка-матэрыялістычнай тэорыі* развіцця грамадства. Шукаючы законы і рухаючыя сілы "сектанцтва", Клібанаў сцвярджаў, што секты ў XIX стагоддзі з'яўляліся рэлігійнай формай сацыяльнага пратэсту (Клибанов, 1973: 28). Прынцып класавай барацьбы ён трансляваў і на рэлігійныя абшчыны. Але *"ўнутра-*

*ныя канфлікты ў сектах, хоць яны і былі класавымі, ускладняліся тым, што секты ўяўлялі сабой рэлігійныя накірункі, якія перасьледуюцца царызмам і царквой, тым, што вярхі сектаў мелі сродкі, каб часткова нівеліраваць супярэчнасці паміж імі і нізамі, і, нарэшце, наяўнасцю даволі значнага дробнабуржуазнага слоя ў складзе вернікаў"* (Клибанов, 1973: 117–118). У Савецкім Саюзе існаванне "сектаў", на думку Клібанава, было не акадэмічнай, а сацыяльнай праблемай. Ён сцвярджаў, што, як і ўсе анахранізмы, "сектанцтва" непазбежна знікне ў выніку далейшага развіцця грамадства.

Досвед палявых даследаванняў Аляксандра Клібанава выкарыстоўвалі ў сваіх працах шматлікія савецкія сектазнаўцы. Напрыклад, метад гутаркі з вернікамі прымянялі беларускія навукоўцы Міхаіл Ленсу і Кацярына Пракошына (Баптизм, 1969). Мэтай іх працы было вывучэнне свядомасці баптыстаў, каб адказаць на пытанне "жывучасці" рэлігіі, і пошук шляхоў пераадолення яе адмоўнага ўплыву на чалавека (Баптизм, 1969: 3–4).

У гэты ж час вывучэннем свядомасці вернікаў займаўся таксама польскі даследчык Уладзімеж Паўлючук (Pawluczuk, 1972). Гэтыя дзве працы былі напісаны амаль у адзін час (1969 і 1972), мелі падобны прадмет даследавання, а таксама блізкую геаграфічную лакалізацыю навуковых інтарэсаў аўтараў. Ленсу і Пракошына праводзілі свае даследаванні на тэрыторыі БССР. Паўлючук вывучаў Беласточчыну, дзе значную частку насельніцтва складалі беларусы, а па канфесійным складзе тут быў моцны праваслаўны асяродак, у якім, як і ў БССР, яшчэ ў пачатку XX стагоддзя шырокае распаўсюджанне атрымала вучэнне баптыстаў. Пасля вайны Беласточчына была адным са значных цэнтраў баптысцкага руху ў Польшчы. Але з прычыны розных метадалагічных падыходаў, гэтыя працы мелі як розную структуру, так і розныя высновы. Параўноўваючы гэтыя даследаванні, можна больш глыбока зразумець праблемы савецкай гістарыяграфіі ЕХБ.

Даследаванне Паўлючука мела антрапалагічны характар, што падкрэсліваў сам аўтар. Пры гэтым ён не адмаўляў марксісцкі падыход у вывучэнні рэлігіі і рэлігійнасці, асцярожна крытыкуючы яго. Паводле навукоўца, ёсць такія элементы існавання супольнасці, якія не залежаць ад зменаў сацыяльна-эканамічных фармацый. *"Патрэбна антрапалагічная інтэрпрэтацыя,* – пісаў Паўлючук, – *інтэрпрэтацыя, якая бярэ ў якасці адпраўной кропкі асаблівасць чалавека і яго патрэбы"* (Pawluczuk, 1972: 8). Даследчык аналізаваў змены ў свядомасці чалавека падчас распаду традыцыйных этнічных супольнасцяў.

Беларускія навукоўцы вывучалі, па-першае, не свядомасць аднаго верніка як часткі супольнасці, а асаблівасці "масавай" рэлігійнай свядомасці (Баптизм, 1969: 5). Пры гэтым, у працы адсутнічала тлумачэнне паняццяў "свядомасць" і "рэлігійная свядомасць", а таксама прыклады фарміравання свядомасці. Па-другое, гэта было сацыялагічнае даследаванне, у якім выкарыстоўваліся такія метады, як гутаркі, стандартызаваныя інтэрв'ю, назіранні і асабістыя дакументы вер-

нікаў. Адсутнасць характарысткі свядомасці і фактараў, якія ўплываюць на яе фарміраванне, пакідаюць адкрытым пытанне, на падставе якой тэорыі быў складзены апытальнік для гутаркі і анкета для інтэрв'ю. Але нават павярхоўны прагляд карткі-інтэрв'ю дае зразумець, што ў яе аснове ляжыць марксісцка-ленінскі атэістычны падыход да рэлігіі. У картцы пераважалі пытанні пра стаўленне вернікаў да савецкага грамадска-палітычнага ладу (напрыклад, якія прычыны прагрэсу, што садзейнічае будаўніцтву камунізму, якое стаўленне да працы, працоўнага калектыву ды інш.).

Усяго было праведзена 351 гутарка-інтэрв'ю ў розных гарадах БССР (вывучаліся ў асноўным гарадскія абшчыны). Гэта было даволі сур'ёзнае эмпірычнае даследаванне. Але тэарэтычныя высновы поўнасцю адпавядалі тэорыі гістарычнага матэрыялізму. У выніку аналізу і сістэматызацыі апрацаваных матэрыялаў даследчыкі паспрабавалі даць характарыстыку рысам рэлігійнага светапогляду баптыстаў (веды пра стварэнне свету, чалавека; Бог у разуменні вернікаў; ідэя бессмяротнасці; эсхаталогія; роля Святога Пісання ў фармаванні свядомасці баптыстаў; уплыў рэлігійна-культавых установак), маральнай свядомасці, асаблівасцям жыццёвых арыентацый, узаемасувязі рэлігійнай свядомасці і сацыяльных ідэй, спецыфіцы эмацыйнага свету баптыстаў. Апісанні ўсіх гэтых характарыстык дазволілі навукоўцам прыйсці да высновы, што фарміраванне і ўстойлівасць рэлігійнай свядомасці баптыстаў дэтэрмінаваны сацыяльнымі, псіхалагічнымі і ідэалагічнымі ўмовамі. *"Але ў сацыялістычным грамадстве баптызм – гэта адміраючая з'ява"* (Баптизм, 1969: 289), – пісалі аўтары, паўтараючы самы галоўны тэзіс усіх сектазнаўцаў.

Як і большасць навуковых прац гуманітарнай сферы, гэта даследаванне шляхам выкарыстання новых фактаў "пацвердзіла" марксісцкую тэорыю залежнасці грамадскай свядомасці ад матэрыяльнага быцця. Але менавіта гэты фактalaгічны матэрыял з'яўляецца найбольш важным для сучаснага даследчыка ЕХБ. Бо крыніцаў, створаных самімі вернікамі ў савецкі перыяд, засталася невялікая колькасць. Менавіта таму запісаныя інтэрв'ю баптыстаў пашыраюць крыніцазнаўчую базу. Нягледзячы на заідэалагізаванасць тэксту, гэта было адно з першых сацыялагічных даследаванняў у БССР пасля рэабілітацыі сацыялогіі. Эфектыўным было выкарыстанне вялікага эмпірычнага матэрыялу, спробы класіфікаваць вернікаў па тыпу сацыяльнай значнасці (Баптизм, 1969: 157), лагічная структура працы.

Апісваючы светапогляд вернікаў, іх стаўленне да грамадства і рэчаіснасці, беларускія даследчыкі шукалі прычыну ўстойлівасці баптызму ў савецкім грамадстве. На іх думку, асноўныя крыніцы "жывучасці" рэлігійнай свядомасці знаходзіліся ў сферы сямейна-бытавых і асабістых адносін (Баптизм, 1969: 289).

Прычыны прыхода чалавека ў рэлігійную абшчыну (баптысцкую, пяцідзясятніцкую ці іншую "секту"[4]) вывучаў і Уладзімеж Паўлючук. На падставе

[4] Паняцце "секта" Уладзімеж Паўлючук выкарыстоўваў у якасці апазіцыі паняццю

тэорыі структурнага аналізу і семіётыкі ён спрабаваў стварыць канструктыўную мадэль культурнай супольнасці (Pawluczuk, 1972: 58). Акрамя таго, выкарыстоўваў і метад палявых даследаванняў. У цэнтры яго навуковай увагі быў "чалавек" як частка этнічнай, а пасля рэлігійнай супольнасці. У адрозненне ад працы "Баптызм і баптысты", дзе на першым месцы знаходзіліся грамадства і дзяржава.

Паўлючук аналізаваў уплыў традыцыйнай этнічнай культуры, а дакладней яе распад, на фарміраванне і развіццё рэлігійнай свядомасці. Зразумела, чаму да "сектаў" далучаліся людзі, якія мелі праблемы са здароўем, матэрыяльным дастаткам, стасункамі з іншымі людзьмі, адзінокія і гэтак далей, пісаў даследчык (Pawluczuk, 1972: 192). А як адказаць на пытанне, чаму ў "секты" ідуць здаровыя, заможныя людзі, якія маюць сям'ю, наладжваюць добрыя адносіны з суседзямі? На думку Уладзімежа Паўлючука, адказ трэба шукаць у існаванні культурнай супольнасці. Ён, у адрозненне ад савецкіх даследчыкаў, прызнаў, што не змог знайсці сувязі паміж сацыяльнай сітуацыяй і прыналежнасцю чалавека да той ці іншай рэлігіі. Менавіта таму навуковец звярнуўся да светапогляду асобнай тэрытарыяльнай супольнасці. Пераход у "секты" адбыўся ва ўмовах, калі чальцы супольнасці аказаліся на мяжы ў выніку распаду культурнай групы, якая была адзіным светам, што даваў пачуццё стабільнасці і ўпэўненасці, а таксама сістэму абгрунтавання ўчынкаў і дзеянняў (Pawluczuk, 1972: 192). Такім чынам, тое, што чалавек страціў у светапоглядзе ў выніку распаду традыцыйнай супольнасці, ён набыў у "сектах", яму патрэбна была абарона ў форме рэлігіі тых элементаў традыцыйнай культуры, якія з'яўляліся рэгулятарамі стасункаў чалавека з рэальнасцю (Pawluczuk, 1972: 235). Напрыклад, баптызм праз рэлігійнае перажыванне задавальняў такія патрэбы чалавека, як духоўная раўнавага і жыццёвы аптымізм.

У працы Уладзімежа Паўлючука рэлігійная свядомасць мела "канструктыўную" ролю ў развіцці грамадскай супольнасці. Ён пісаў пра рэлігійны "этнічна-захаваўчы рух" як прыклад самаабароны. Савецкія ж даследчыкі пісалі пра небяспечны і шкодны ўплыў баптысцкай ідэалогіі на грамадства і яго свядомасць.

Беларускія навукоўцы і Паўлючук карысталіся працамі адных і тых жа савецкіх аўтараў – Аляксандра Клібанава, Льва Мітрохіна. Аналізуючы марксісцкі падыход да вывучэння рэлігіі, Уладзімеж Паўлючук зазначаў, што, разглядаючы рэлігію толькі як грамадскую з'яву, можна шмат у чым памыліцца: зрабіць неістотнымі важныя рэчы, казаць пра псіхапаталогію і цемрашальства людзей, якія ствараюць рэлігійную групу (Pawluczuk, 1972: 8). Яго праца з'яўляецца прыкладам выкарыстання савецкай гістарыяграфіі для напісання глыбокага антрапалагічнага даследавання, што было немагчыма зрабіць у Савецкім Саюзе, дзе культурная антрапалогія аднавілася толькі ў 1970-я гады ў вы-

"царква" (kościoł) на падставе прынцыпаў іх арганізацыі і дзейнасці. Развіццё "секты" адбывалася наступным чынам: гвалтоўнае аддзяленне ад царквы і стварэнне "секты", а пасля павольнае імкненне да фарміравання ідэальнай царквы.

глядзе этналагічных даследаванняў. Для сучасных беларускіх навукоўцаў гэта праца дае вялікі метадалагічны досвед.

Такім чынам, у савецкі час навуковае даследаванне рэлігіі, у тым ліку ЕХБ, было магчыма толькі ў форме іх крытыкі і на аснове марксісцка-ленінскай тэорыі. Па сваёй структуры працы на гэтыя тэмы абавязкова ўключалі раздзелы пра навукова-атэістычнае выхаванне і спосабы яго паляпшэння. Спасылкі на класікаў марксізму-ленінізму былі абавязковымі для ўсіх навуковых даследаванняў. Жорсткія метадалагічныя межы і ізаляцыя ад напрацовак заходнееўрапейскай гістарыяграфіі стваралі перашкоды ва ўсебаковым вывучэнні канфесій. Шматлікія савецкія даследчыкі займаліся зборам інфармацыі (напрыклад, падчас палявых экспедыцый), а іх працы мелі эмпірычны характар.

## 3. Асноўныя тэмы даследаванняў

Метадалагічная абмежаванасць уплывала і на тэматыку даследаванняў, якая была строга дэтэрмінавана дзяржаўна-палітычным фактарам. Перавага калектыўнага над індывідуальным, матэрыяльнага над ідэяй стваралі такія навукова-даследчыя ўмовы, у якіх не маглі з’явіцца працы, падобныя на даследаванне Уладзімежа Паўлючука.

Найбольш запатрабаванай тэмай быў крызіс рэлігіі ўвогуле і баптыстаў у прыватнасці. Баптызм называўся "перажыткам капіталізму", "аскепкам буржуазнага грамадства", "гістарычна асуджаным на знікненне" ў грамадстве, якое пабудавала сацыялізм (Клибанов, 1973: 165–166). Аналіз сацыяльна-дэмаграфічнага складу вернікаў пацвярджаў крызісныя з’явы канфесіі. Большасць адэптаў ЕХБ складалі неадукаваныя жанчыны сталага ўзросту. “Праблема маладых кадраў” і “старэнне” вернікаў савецкімі даследчыкамі тлумачыліся аб’ектыўным знікненнем рэлігіі як сацыяльнага феномена ў выніку секулярызацыі грамадства (гл. Клибанов, 1973; Лялина, 1977; Митрохин, 1974). Тое, што гэты працэс шмат у чым быў справакаваны рэлігійнай палітыкай (забарона хрысціць 18-гадовых хлопцаў, забарона рэлігійнага выхавання, абмежаванні ў атрыманні вышэйшай адукацыі і інш.), даследчыкі, зразумела, не пісалі.

У другой палове 1960-х – 1970-я гады з’явіліся працы на тэму “раскола” ў Саюзе ЕХБ – выхад часткі вернікаў і абшчын з Саюза ЕХБ, які быў выкліканы як унутранымі, так і знешнімі прычынамі. “Раскол” – тэрмін, які выкарыстоўваўся ў афіцыйным дыскурсе. Самі вернікі называлі гэты крызіс “раздзяленнем у брацтве” (История ЕХБ, 1989: 238). У працы Галіны Лялінай (1977) найбольш падрабязна разглядаліся прычыны і наступствы “расколу” Саюза ЕХБ. Перадумовы яго, на думку даследчыцы, пачалі фарміравацца яшчэ ў пачатку ХХ стагоддзя, калі з’явілася “класавая і сацыяльная дыферэнцыяцыя” ў абшчынах. Секулярызацыя прывяла да таго, што *“найбольш фанатычныя і рэакцыйныя баптысты спрабавалі знайсці шляхі пераадолення крызісу”* (Лялина, 1977: 16) і выйшлі з афіцыйнага Саюза ЕХБ, стварыўшы сваю не-

легальную рэлігійную арганізацыю Саюз цэркваў ЕХБ. У дачыненні да адэптаў неафіцыйнага Саюза цэркваў у савецкай гістарыяграфіі замацаваліся дэфініцыі – "рэлігійныя экстрэмісты" і "ініцыятыўнікі",[5] якія таксама сталі аб'ектам даследаванняў у савецкі час (гл. Ленсу, 1967).

Непазбежныя "працэсы секулярызацыі" і ўнутраны крызіс Саюза ЕХБ пацвярджаў у сваёй працы Георгі Філіст (1986). Ён звярнуў увагу на адну з самых асноўных праблем у Саюзе ЕХБ – канфлікты паміж баптыстамі, евангельскімі хрысціянамі і пяцідзесятнікамі (Филист, 1986: 95). Гэта пытанне вельмі павярхоўна разглядалася ў савецкай гістарыяграфіі. Бо напружаныя адносіны паміж рознымі пратэстанцкімі накірункамі ў Саюзе ЕХБ з'явіліся адразу пасля яго стварэння ў 1944 годзе і выкарыстоўваліся ўладамі з мэтай паглыблення супярэчнасцяў сярод вернікаў і крызісных з'яў у абшчынах (Информационный отчёт, 1950). Акрамя міжканфесійных канфліктаў, па-за ўвагай савецкіх даследчыкаў заставалася і праблема стварэння Саюза ЕХБ. Пры гэтым з'яўляліся працы, прысвечаныя асобным накірункам пратэстантызму, якія ўвайшлі ў Саюз ЕХБ, напрыклад, пяцідзясятніцтву (гл. Москаленко, 1973).

У савецкай гістарыяграфіі падрабязна апісваўся і "вобраз верніка". Заўсёды падкрэсліваўся "буржуазны характар" паходжання ЕХБ (гл. Клибанов, 1973; Лялина, 1977; Митрохин, 1974). Вернік баптыст – гэта "цемрашал" і "патэнцыйны здраднік", якому ўсё савецкае было чужым. Амаль усе маркеры стэрэатыпнага вобраза ЕХБ звязаны з характарыстыкай "антысавецкі". Лаяльныя дзеянні баптыстаў у адносінах да ўлады разглядаліся як выключэнне і нават недарэчнасць. Такое стаўленне да ЕХБ паўплывала на ізаляцыю абшчын ад грамадства (гл. Касатая, 2013).

Але найбольшая колькасць працаў была прысвечана "веравучэнню" і "дагматыцы" баптызму. У савецкі час пачаў сваю даследчую дзейнасць рэлігіязнаўца, доктар філасофскіх навук Леў Мітрохін (1974). У той перыяд яго даследаванні адпавядалі афіцыйным ідэалагічным устаноўкам. *"Сутнасць уздзеяння баптызму на чалавека заключаецца ў тым, што ён замацоўвае стан надломленасці і недасканаласці. Баптызм прыгнятае кожнага чалавека, які патрапіў пад яго ўплыў,"* (Митрохин, 1974: 260) – сцвярджаў даследчык у працы 1974 года.

А вось выдадзеная ў 1997 годзе манаграфія "Баптизм: история и современность" зараз з'яўляецца адной з аўтарытэтных прац па гісторыі ЕХБ. Аўтар прызнаваў, што ў савецкі час знаходзіўся пад уплывам існуючых у афіцыйным дыскурсе стэрэатыпаў (Митрохин, 1997: 5) адносна рэлігіі ўвогуле і баптызму ў прыватнасці. Але Мітрохін не лічыў сябе ў той перыяд "ваяўнічым атэістам". На падставе даследаванняў і досведу Сяргея Токарава, Сяргея Кавалёва, Аляксандра Клібанава і іншых навукоўцаў ён спрабаваў прытрымлівацца рацыяна-

[5] Ініцыятыўнікі – група вернікаў, якія высупілі з "ініцыятывай" правядзення з'езда прадстаўнікоў усіх абшчын ЕХБ для вырашэння асноўных пытанняў дзейнасці Царквы ЕХБ.

лістычнага, строга навуковага падыходу ў вывучэнні рэлігій. Праўда, прызнаваўся Мітрохін, шматлікія з гэтых даследчыкаў не цураліся і прапагандысцкай, асветніцкай дзейнасці. *"Гэта нядзіўна, таму што скептыцызм, антыклерыкалізм, вальнадумства, атэізм заўсёды сімвалізуюць абарону асабістай самасвядомасці, пратэст супраць духоўнага аўтарытарызму і разумовай закасцянеласці"* (Митрохин, 1997: 15).

Леў Мітрохін у сваім новым выданні палічыў немаральным учынкам аналізаваць савецкую літаратуру, якая выдавалася ў Інстытуце навукова атэізму, бо сам з'яўляўся сябрам Інстытута. Выключэнне зрабіў толькі для прац Аляксандра Клібавана. Пры гэтым пацвердзіў, што перыяд 1960–1970-х гадоў быў плённым у вывучэнні "сектаў". Выкарыстанне некаторымі даследчыкамі штампаў дзяржаўнага атэізму, ён тлумачыў крытычным стаўленнем да баптысцкага светаадчування і цэнзурай (Митрохин, 1997: 61).

Гэта значыць, сектазнаўцы знаходзіліся не толькі пад уплывам ідэалагічнай, метадалагічнай і тэматычнай абмежаванасці, але самі былі свядомымі творцамі і актуалізатарамі антырэлігійнай, антыбаптысцкай прапаганды.

Такім чынам, кніга Льва Мітрохіна – гэта не катэгарычны перагляд яго навуковых высноў савецкага часу, а дапоўненая новымі крыніцамі, і вольная ад дзяржаўнай цэнзуры выданне. Аўтар у прадмове адзначыў, што гэта даследаванне *"не з'яўляецца ні прарэлігійным, ні антырэлігійным"* (Митрохин, 1997: 17).

Да гістарыяграфіі ЕХБ можна аднесці і працы на тэму рэлігійнай палітыкі і свабоды сумлення (гл. Клочков, 1982; Корчева, 1985; Куроедов, 1981), бо іх з'яўленне шмат у чым было выклікана дзейнасцю незарэгістраваных груп вернікаў ЕХБ. Ідэя свабоды сумлення да 1960-х гадоў знаходзілася ў манапольным карыстанні дзяржавы. Дэклараванае аддзяленне царквы ад дзяржавы і школы ад царквы, прымалася як дадзенае, якое не трэба было даказваць. Але ў 1960-я гады ідэя свабоды сумлення пачала шырока выкарыстоўвацца вернікамі ЕХБ, яны патрабавалі "рэальнага" выканання прынцыпу свабоды веравызнання. Такім чынам, пачалася своеасаблівая палеміка на тэму свабоды сумлення паміж вернікамі праз лісты ў органы ўлады і дзяржавай праз выданне прац пра савецкае рэлігійнае заканадаўства. У іх сцвярджалася, што ў СССР, у адрозненне ад "буржуазных" краін, існавала "сапраўдная" свабода сумлення, неабходнай умовай якой было аддзяленне царквы ад дзяржавы (Клочков, 1982). Савецкая літаратура, прысвечаная заканадаўству аб культах,[6] разглядала ў першую чаргу дзейнасць "рэлігійных экстрэмістаў" ("ініцыятыўнікаў"), якія парушалі законы. Пры гэтым непадпарадкаванне вернікамі савецкаму заканадаўству тлумачылася спробай выхаду з крызісу, які перажывалі баптысты. *"Ігнаруючы аб'ектыўныя прычыны працэсу секулярызацыі, ініцыятыўнікі аб'явілі «коранем зла» савецкія законы аб рэлігійных культах, «бяз-*

[6] Заканадаўства аб культах – паняцце, уведзенае ў савецкі час.

*божную палітыку» Савецкай дзяржавы,"* – пісаў Уладзімір Кураедаў (1981: 169).

Тэма савецкага заканадаўства была адной з асноўных у 1980-я гады, у тым ліку і ў перыяд "Перабудовы". Значных зменаў у методыцы, праблематыцы гістарыяграфіі ЕХБ у гэты час не адбылося. Толькі ў 1989 годзе выйшаў зборнік артыкулаў "На шляху да свабоды сумлення" пад рэдакцыяй Дзмітрыя Фурмана і айца Марка (Смірнова), у якім адкрыта крытыкавалася дзяржаўна-рэлігійная палітыка ў Савецкім Саюзе. Звяртаюць на сябе ўвагу артыкулы Віктара Гараджы (1989: 19–28), Міхаіла Адзінцова (1989: 29–86), Анатоля Рудэнкі (1989: 345–357) і Дзмітрыя Фурмана (1989: 6–18), у якіх на аснове архіўных матэрыялаў адкрыта апісвалася рэпрэсіўная палітыка ў дачыненні да вернікаў, ставіліся пытанні далейшага развіцця рэлігій у савецкім грамадстве. Анатоль Рудэнка пісаў, што ЕХБ могуць унесці ў абнаўленні грамадства духоўна-сацыяльныя каштоўнасці, якія не толькі абвяшчаюцца, але і рэальна ажыццяўляюцца (Руденко, 1989: 355). *"Калі пачнецца значны рост евангельска-баптысцкай царквы,* – сцвярджаў далей даследчык, – *то грамадству гэта будзе толькі на карысць. Бо, напрыклад, у ЗША яна зрабіла вялікі ўнёсак у развіццё краіны"* (Руденко, 1989: 356). Пры гэтым Анатоль Рудэнка казаў пра шматлікія праблемы ЕХБ, якія былі звязаны з перыядам ганенняў і рэпрэсій, што паўплывала на фарміраванне *"баптызму савецкага тыпу з афіцыйным іерархізмам і закрытасцю"* (Руденко, 1989: 350). Адметным з'явілася тое, што аўтары артыкулаў у дачыненні да ЕХБ выкарыстоўвалі паняцце "царква" і не называлі вернікаў "сектантамі".

У 1989 годзе была выдадзена Усесаюзным Саветам ЕХБ "Гісторыя ЕХБ у СССР", якая толькі па часе і па месцы стварэння можа быць аднесена да савецкай гістарыяграфіі. Гэтая фундаментальная па аб'ёме праца адлюстравала гісторыю ўзнікнення царквы ЕХБ ва ўсіх рэгіёнах Савецкага Саюза. У ёй змешчана падрабязная інфармацыя пра колькасны склад абшчын баптыстаў у БССР, пратаколы з'ездаў УСЕХБ, біяграфіі старэйшых прасвітараў саюзных рэспублік. Але ў працы шматлікія пытанні, якія датычыліся характару міжканфесійных адносін унутры аб'яднання, "раздзялення" 1960-х гадоў, узаемаадносінаў з дзяржаўнымі органамі, разглядаліся павярхоўна.

## Высновы

Такім чынам, вывучэнне ЕХБ у савецкі перыяд мела сфармаваную традыцыю. З'явілася група даследчыкаў сектазнаўцаў, якія займаліся даследаваннем пратэстанцкіх канфесій. Большасць з іх былі супрацоўнікамі Інстытута навуковага атэізму Акадэміі грамадскіх навук пры ЦК КПСС. Менавіта таму самымі актуальнымі і прыярытэтнымі пытаннямі ў акадэмічных даследаваннях былі праблемы атэізацыі насельніцтва. У працах пераважала тэматыка пра крызісныя з'явы ў баптызме і яго паступовае знікненне, што адпавядала вульгарнаму і палітызаванаму разуменню тэорыі дыялектыка-матэрыялістычнага развіцця грамадства. Па прычыне

метадалагічнай абмежаванасці філасофскія, сацыялагічныя, сацыяльна-псіхалагічныя даследаванні ЕХБ характарызаваліся аднабаковасцю і тэндэнцыйнасцю. Пры гэтым адсутнічалі гістарычныя працы на тэму ЕХБ у Савецкім Саюзе.

Найбольш плённымі былі сацыялагічныя і рэлігіязнаўчыя даследаванні Аляксандра Клібанава, Галіны Лялінай, Эдуарда Філімонава, Міхаіла Ленсу, Кацярыны Пракошынай, Льва Мітрохіна і інш. Дзякуючы ім, з'явіліся новыя аспекты ў вывучэнні баптызму – філасофскі, сацыяльна-псіхалагічны, псіхалагічны. Пачалі выкарыстоўвацца новыя метады вывучэння рэлігій – палявыя экспедыцыі, якія ўключалі інтэрв'ю, гутарку з вернікамі, анкетаванне. Але па-за ўвагай даследаванняў заставаўся сам вернік, яго вопыт і культурнае асяроддзе. Навукоўцаў цікавілі пераважна сацыяльныя інстытуты. Універсальнасць інтэрпрэтацый усіх аспектаў у вывучэнні ЕХБ не адпавядала комплекснаму і глыбокаму даследаванню і тлумачэнню развіцця гэтай канфесіі. Для большасці даследчыкаў баптызм і баптысты былі прадметам крытыкі, а не прадметам усебаковага вывучэння, што было звязана са свядомым прыняццем атэістычнай ідэалогіі.

Савецкая гістарыяграфія баптызму ў пасляваенны перыяд, як і сам Саюз ЕХБ, былі феноменамі свайго часу, шмат у чым штучнымі, залежнымі ад палітычнай кан'юктуры. Але працы савецкіх даследчыкаў утрымліваюць вялікую колькасць крыніцазнаўчага матэрыялу, які патрабуе грунтоўнага аналізу сучаснымі навукоўцамі. Наогул, вывучэнне прац сектазнаўцаў дапаможа пазбавіцца шматлікіх стэрэатыпаў у дачыненні да ЕХБ, сфарміраваць паняційны апарат, зрабіць больш зразумелымі азначэнні "секта", "савецкае заканадаўства аб культах", "ініцыятыўнікі" і інш., а таксама крытычна паставіцца да метадалогіі вывучэння не толькі рэлігійных груп, арганізацый, але і асобнага верніка.

**Бібліяграфія**


1. Арестов, Василий (1984). *Религиозный экстремизм содержание, причины и формы проявления, пути преодоления.* Киев.
2. Балтрушэвіч, Наталля (2005). "Утварэнне Усесаюзнага Саюза евангельскіх хрысціян-баптыстаў (УСЕХБ). Далучэнне пяцідзесятнікаў (на прыкладзе БССР)", *Веснік Віцебскага дзяржаўнага універсітэта,* №2: 9–14.
3. *Баптизм и баптисты (социологический очерк)* (1969). Минск.
4. Бонч-Бруевич, Владимир (1959). О религии, религиозном сектантстве и церкви, *Избранные сочинения* Т. 1. Москва.
5. Буткевич, Тимофей (1910). *Обзор русских сект и их толков.* Харьков: тип. Губ. правл.
6. Бычков, Сергей и Корзун, Валентина (2001). *Введение в историографию отечественной истории XX в.* Омск: Омск. гос. ун-т.
7. Бычков, Сергей. "Чекистский "игумен" Евгений Тучков", *Библиотека Якова Кротова,* URL (доступ 11.05.2014): http://krotov.info/spravki/history_bio/20_bio/1957_tuchkov.htm
8. Гараджа, Виктор (1989). "Переосмысление", *На пути к свободе совести: сборник статей*: 19–28.

9. Дьяченко, Олег (2003). *Пятидесятничество в Беларуси.* Могилёв: Изд-во УО «МГУ им. А.А. Кулешова».
10. *Информационный отчёт о работе Уполномоченного Совета по делам религиозных культов при Совете Министров БССР за 4 квартал 1949 г.* (1950). Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Ф. 4п, воп. 62, спр. 162, арк. 99.
11. Ипатов, Алексей (1978). *Меннониты. Вопросы формирования и эволюции этноконфессиональной общности.* Москва.
12. *История ЕХБ в СССР* (1989). Москва.
13. Касатая, Таццяна (2013). Вобраз евангельскіх хрысціян-баптыстаў (ЕХБ) у афіцыйным дыскурсе ў 1940-я – 1950-я гг. у БССР (на аснове дакументаў фонда Упаўнаважанага па справах рэлігійных культаў пры Савеце Міністраў БССР), *Актуальныя праблемы крыніцазнаўства. Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя да 135-годдзя з дня нараджэння У. І. Пічэты. 9–11 кастрычніка 2013 г. Мінск – Віцебск*: 301–305.
14. Клибанов, Александр (1973). *Религиозное сектантство в прошлом и настоящем.* Москва: Наука.
15. Клочков, Валентин (1982). *Закон и религия. От государственной религии в России к свободе совести в СССР.* Москва: Изд-во политической литературы.
16. Корчева, Зоя (1985). *Советское законодательство о религиозных культах.* Харьков.
17. Куроедов, Владимир (1981). *Религия и церковь в Советском государстве.* Москва.
18. *КПСС в резолюциях и решениях съездов, конференций и пленумов ЦК. Т. 8. (1946–1955)* (1985). Москва: Политиздат, 1985: 571–573.
19. Ленсу, Михаил (1967). *Кто такие инициативники?* Минск: Беларусь.
20. Лялина, Галина (1977). *Баптизм: иллюзии и реальность.* Москва: Политиздат.
21. Мельгунов, Сергей (1904). “Штундисты или баптисты?”, *Русская мысль:* 159–166.
22. Мельгунов, Сергей (1909). *Церковь и государство в России.* Вып. 2.
23. Митрохин, Лев (1974). *Баптизм.* Москва: Политиздат.
24. Митрохин, Лев (1997). *Баптизм: история и современность (философско-социологический очерк).* Санкт-Петербург.
25. Москаленко, Алексей (1973). *Пятидесятники.* Москва.
26. О содержании понятия «религиозной сектантство» в условиях социалистического общества (1979), *Вопросы научного атеизма.* Вып. 24.
27. Одинцов, Михаил (1989). “Путь длинною в семь десятилетий: от конфронтации к сотрудничеству (государственно-церковные отношения в истории советского общества)”, *На пути к свободе совести: сборник статей*: 29–86.
28. Pawluczuk, Włodzimierz (1972). *Światopogląd jednostki w warunkach rozpadu społeczności tradycyjnej.* Warszawa: Państwowe Wydawnictwo Naukowe.
29. Руденко, Анатолий (1989). “ЕХБ и перестройка в СССР”, *На пути к свободе совести: сборник статей:* 345–357.
30. Смолкин, Виктория (2009). “«Свято место пусто не бывает»: атеистическое воспитание в Советском Союзе, 1964–1968”, *Неприкосновенный запас,* №3(65), URL (доступ 11.05.2014) http://magazines.russ.ru/nz/2009/3/sm5-pr.html
31. Тучков, Евгений (1955). *Сектантство и его идеология.* Москва.
32. Филимонов, Эдуард (1968). *Баптизм и гуманизм.* Москва: Мысль.
33. Филист, Георгий (1986). *Урбанизация и сектанство.* Минск: Беларусь.
34. Фурман, Дмитрий (1989). “Религия, атеизм и перестройка”, *На пути к свободе совести: сборник статей:* 6–18.
35. Чудноўцаў, М. (1931). *Царкоўнікі і сэктанты ў змаганьні супроць колгасаў.* Менск: Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі Партасэктар.